

„БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-75"

*Другое месца ў сёлетнім цэнтральным аглядзе ў катэгорыі фальклорнай песні ў групе калектываў заняло трыо з Новай Волі Беластоцкага павету ў складзе: Раіса Буйко, Анна Кузьміцкая і Марыя Сак.*

*Фота Я. Цялушэцкага.*

# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 16 (999) ГОД XX 20 КРАСАВІКА 1975 г. ЦАНА 60 гр.

## ЧЫМ ХАТА БАГАТА...




Беласточчына стала слаўнай у Польшчы сваім чыстым паветрам, цудоўнымі лясамі і азёрамі. Факт, што наша ваяводства доўгі час заставалася сельскагаспадарчым, што ў нас будавалася значна менш прамысловых аб'ектаў, зрабіла Беласточчыну, як цяпер кажуць, лёгкімі Польшчы.

Іменна гэта было ўзята пад увагу, калі зацвярджалася перспектыўная праграма грамадска-гаспадарчага развіцця нашага ваяводства на бліжэйшыя гады. Тады якраз турызм быў названы трэцім напрамкам развіцця гаспадаркі, адразу за інтэнсіфікацыяй гаспадаркі і прамысловасцю на базе мясцовай сыравіны.

У мінулым годзе на сесіі ВРН была зацверджана праграма развіцця турызму аж да 1980 года. У гэтай праграме вызначаны былі турыстычныя раёны нашага ваяводства. Вось яны: Сувальска-Аўгустоўскі азёрны край, Гарбатыя Мазуры (Элк-Голдап-Алецка) Белавежа, Надбужжа (Драгічын -Мельнік), Курпёўшчына, даліны Нарвы-Бебжы, (Тыкоцін).

Праведзена было шэраг новых даследаванняў, выдзелены былі новыя краязнаўчыя паркі і запаведнікі. У Аўгустове і Голдапі былі знойдзены мінеральныя воды, а ў Мельніку — гарачая крыніца (тэмпература 37 градусаў круглы год).

Кожны з вышэй названых раёнаў згодна з мікракліматычнымі і прыроднымі ўмовамі мае сваю спецыялізацыю ў плане развіцця турызму і базы для адпачынку.

Сувальска – Аўгустоўскі азёрны край, апрача вялікай колькасці санаторыяў і дамоў адпачынку, — гэта рай для аматараў рознага роду водных падарожжаў, сплываў па рэках і азёрах, шляхоў для пешага турызму. Тут вызначаны ўжо турыстычныя шляхі, якія пачынаюцца пераважна ад Возера Вігры і вядуць па сувальскай Швейцарыі аж да краязнаўчага парка ў ваколіцах Смольнік, дзе знаходзіцца непаўторнай прыгажосці даліна пяці азёр, акружаная высокімі і абрывістымі пагоркамі, якія тут выглядаюць зусім як горы. А над усёй гэтай далінай маестатычна ўзвышаецца пік „сувальскай

(Працяг на стар. 4)

## ПА-СУСЕДСКУ МЫ ЖЫВЕМ

**ДРУЖБА НА ПРАКТЫЦЫ**

Па-суседску мы жывем. Раздзяляе нас толькі дзяржаўная граніца. Яна аднак не ў сілах спыніць цячэнне рэк. А па рэках не заўсёды плыве крынічная вада, можа здарыцца, што пападае ў іх і розная нечысць.

Таму ў 1964 годзе прадстаўнікі ўрадаў СССР і ПНР дагаварыліся аб пастаянным супрацоўніцтве ў загаспадаранні прыгранічных і гранічных рэк. Практычным ажыццяўленнем гэтага дагавору займаюцца ўпаўнамочаныя ўрадамі. Дапамагаюць ім эксперты з абодвух бакоў, аб'яднаныя ў рабочыя групы па справах:

**— якасці вады ў рэках,**

**— планавання будоўляў на гранічных рэках,**

**— меліярацыі сенажацяў у прыгранічных раёнах, асушкі балот і дрэнажу поля,**

**— метэаралогіі.**

Самая важная з гэтых рабочых груп **— група па кантролю чысціні і якасці прыгранічных рэк і вадаёмаў** — сціслейшае супрацоўніцтва распачала ў 1967 годзе. У яе саставе зараз знаходзяцца: **Валянціна Турковіч з Беларусі, Рігард Даршкус з Літвы і Тамара Балашова** — кіраўнік савецкіх экспертаў. Польскіх спецыялістаў у групе ўзначальвае загадчык аддзелам аховы водаў Міністэрства тэрытарыяльнай гаспадаркі і аховы асяроддзя мгр інж. **Станіслаў Задрожны.** Два разы ў год група сустракаецца: раз у Польшчы і раз у Савецкім Саюзе, каб абмеркаваць свае справы і апрацаваць канкрэтныя рэкамендацыі па паасобных пытаннях для **ўпаўнамочаных урадамі.** Апошняя сустрэча гэтай групы адбылася ў Беластоку.

Карыстаючыся нагодай, мы звярнуліся да кіраўнікоў савецкіх і польскіх экспертаў, каб расказалі нам аб сваёй працы. Голас мае Тамара Балашова.

— Усе прыгранічныя і гранічныя рэкі дагэтуль астаюцца ў нас зусім чыстымі. Іх воды поўнасцю адпавядаюць нормам чысціні, устаноўленым для краін, аб'яднаных у Савеце эканамічнай узаемадапамогі. І такімі, — рашуча падкрэслівае Тамара Балашова, — яны астануцца назаўсёды. Няма спраў немагчымых, калі вырашаць іх будзем супольнымі сіламі. Для прыкладу: у прыгранічных раёнах Украіны будуецца ў нас вялікі хімкамбінат. Калі б аднесліся мы да гэтага бестурботна, рака Сан цераз свае прытокі Шкло і Вішня была б атручана назаўсёды. Мы аднак ўзялі гэтыя рэкі пад кантроль, запрапанавалі неабходныя ачышчальныя ўстаноўкі і гэты аграмадны хімічны камбінат ніякага ўшчэрбку для акружаючага асяроддзя не прынясе. Даўней уся нечысць з Брэста цераз Мухавец пападала ў Буг. Гэта пагражала ўсяму жывому, што знаходзілася ў ім. Па нашай рэкамендацыі ўрад БССР не пашкадаваў вялікіх капіталаўкладанняў, каб пабудаваць аграмадныя ачышчальныя ўстаноўкі. Цяпер Мухавец нясе ў Буг зусім чыстыя воды. Апрача Бугу, пад нашым назіраннем знаходзяцца рэкі Шэшупа, Нараўка і некаторыя іншыя рэчкі мясцовага значэння. Вось на Нарве ў мясцовасці Семяноўка будуецца вадасховішча. І адразу ўзнікаюць праблемы міжнароднага характару. Аднак аб гэтым лепш вам раскажа наш польскі калега Станіслаў Задрожны.

(Працяг на стар. 4)




### МАЛІТВА

*Абярнуся я*
*галубіцай,*
*у акно тваё*
*буду біцца.*
*Прабягу каля ног дарогай —*
*у цябе іх наперадзе*
*многа.*

*Белым досвіткам,*
*сінім вечарам*
*упаду*
*каля вербаў*
*рэчанькай.*
*Ціхай зоранькай*
*буду маліцца.*
*Не ікона я —*
*маладзіца.*

*Чаго глядзіш?..*

**Нэлі Тулупава**

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"



## КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

## АЛЬХОВІЧЫ

Пра гэтую мясціну, што знаходзіцца ў якіх паўтара кіламетрах на паўднёвы ўсход ад чыгуначнай станцыі Сямяцічы ў Сямяціцкім павеце, на добры лад можна было б і не ўспамінаць у нашым слоўніку. Тут ўсяго дзве гаспадаркі і жыхароў нават цэлага дзесятка не набярэш.

Але калі я ў сваёй вандроўцы па **Надбужжы** затрымаўся над пакручастым руслам рэчкі **Машчонкі**, што жвава нясе празрыстую хвалю недзе з-за легендарнай Грабаркі, каб аддаць яе каля вёскі **Мацькавічы** бурліваму сівому **Бугу**, ды глянуў на спарахнелы **вадзяны млын** і яго згніўшае кола, у мяне мільганула падазрэнне: „Тут, бадай, затаілася дзівосная старажытнасць!.."

— По-нашому, по-простому, то тут, дэ мы жывэмо, называецця Оліховічы, — кажа радавітая, патомная тутэйшая жыхарка, праўнучка, унучка і дачка мельнікава ды сама доўгія гады **мельнічыха,** шасцідзесяцічатырохгадовая **Анна Каменская.**

І праўда. З архіўных матэрыялаў, сабраных прафесарам Е. Вішнеўскім, вядома, што ў 1581 г. **„сядзеў"** тут мельнік **Павел Олеховіч.** І ад яго прозвішча гэтая мясцовасць заімела назву. Радавод прозвішча *„Олеховіч"* просты, выводзіцца яно ад імя *„Олех"* — памяншальнага ад *„Аляксандр"*, напрыклад, гродзенскі баярын у актах з 1528 г. *„Олех Ширейкович"*. Потым уладальнікі гэтай мясцовасці мяняліся. У 1616 г. млын з фольшам на рацэ Машчонай *„трымаў"* нейкі *Лапковіч*. Але яшчэ на карце Д. Ф.

(Працяг на стар. 4)






21 красавіка спаўняецца трыццаць год ад падпісання ў Маскве дагавора аб дружбе, узаемадапамозе і пасляваенным супрацоўніцтве паміж Рэчпаспалітай Польшчай і СССР.

Дагавор стаў пераломным момантам у гісторыі суадносін паміж суседнімі краінамі.

Затрымаемся толькі на эканамічным супрацоўніцтве. Пачалося ад патрэбы хуткай адбудовы на вызваленай тэрыторыі чыгунак (4 тыс. км), мастоў (звыш 200), дарог, электрастанцый, сродкаў сувязі, размінавання гарадоў і палёў тылавымі адзінкамі Савецкай Арміі, а незалежна ад гэтага была дастаўка польскаму насельніцтву збожжа, вугалю, солі, нафты, баваўны ў крэдыт, або за цэмент, спірт, тэкстыльныя вырабы.

У перыяд адбудовы і індустрыялізацыі краіны (1948-1956) найвялікшае запатрабаванне датычылася абсталявання, у тым ліку для такіх гігантаў народнай гаспадаркі, як Новая Гута, для вугальных шахтаў, металургічных заводаў, машынабудаўніцтва (Краснік, Гданьск, Шчэцін), хімічных заводаў, а на Беласточчыне — тэкстыльных камбінатаў у Фастах і Замброве. Звыш 30 заводаў атрымала ў тыя гады савецкае абсталяванне.

Павелічэнне прадукцыйнага патэнцыяла дазволіла ўжо ў канцы пяцідзесятых гадоў перайсці на выгадны для абедзвюх краін тавараабмен. Згодна з пяцігадовымі гандлёвымі ўмовамі, СССР далей пастаўляў у асноўным інвестыцыйнае абсталяванне, у тым ліку для гуты „Варшава“ і імя Б. Берута ў Чанстахове, для электрастанцыі ў Явожне, Коніне, Турашаве, для аўтамабільных заводаў у Любліне і Варшаве, для хімічных камбінатаў у Асвенціме, Кандзежыне, Дэмбіцы і Плоцку, а таксама грузавыя аўтамашыны, прыборы і інш.

У сваю чаргу ПНР стала экспартаваць у СССР гандлёвыя судны (да сёння каля 600 штук), цягнікі і вагоны (апошніх — звыш 90 тысяч штук), пабудавана каля 150 прамысловых прадпрыемстваў, у тым ліку 32 фабрыкі пільснёвых пліт, 25 хімічных заводаў, 16 — цукровых, з іншых — паперы, дрожджаў, халадзільнікаў, звыш 5 тысяч дарожных машын, 35 тысяч дастаўчых самаходаў „Жук“ і „Ныса“, матэматычныя машыны „Одра“, вымяральную апаратуру і мноства іншага абсталявання.

Для нашай краіны выключна важнае значэнне мае імпарт сыравіны — 10,5 млн. тон нафты ў год, 11 млн. тон жалезнай руды, 1,5 млн. тон калійнай солі, каля 2 млн. тон жалезастопаў і г.д. Зараз кожны чацвёрты польскі рабочы працуе на гэтай сыравіне.

Пашыраецца абмен вопытам, кааперацыя, транспартныя сувязі.

Сярод тавараў штодзённага ўжытку ў нашай краіне шырока вядомы савецкія халадзільнікі, радыёпрыёмнікі, каляровыя тэлевізары, фотаапараты, гадзіннікі, веласіпеды, ювелірныя вырабы, каньяк і віно, рыбныя кансервы. У СССР вялікай папулярнасцю карыстаюцца польскія тэкстыльныя вырабы, асабліва вопратка, мэбля, медыкаменты, фарбы і лак, парфюмерыя, гарэлка, беластоцкія трускалкі, кніжкі і газеты.

У апошнія гады вартасць імпарту і экспарту ў СССР дасягнула каля трэцяй часткі ўсяго тавараабмену ПНР. Каардынатарам усяго цяпер з'яўляецца Рада Узаемнай Гаспадарчай Дапамогі, сядзіба якой знаходзіцца ў Маскве.

Дагавор на бягучую пяцігодку (1971-1975) прадугледжвае імпарт з СССР 49 млн. тон нафты, 8 млн. тон зямнога газу, 30 млн. тон жалезнай руды, 4 млн. тон калійнай солі, па паўмільёна тон цэлюлозы, паперы, баваўны, абсталявання для 38 заводаў і шматлікіх тавараў штодзённага ўжытку. Экспарт прадбачвае 38 млн. тон вугалю, 120 суднаў, 2,5 тысячы вагонаў, абсталявання для 100 прамысловых аб'ектаў і інш.

Сучасныя эканамічныя суадносіны паміж абедзвюма краінамі характарызуюцца сталасцю, незалежнасцю, узаемнай выгадай і вялікай дынамікай развіцця. У гэтай галіне, як нідзе больш, заўважальна гістарычнае значэнне падпісання ў 1945 годзе спамянутага дагавора.

**Ул. Юзвюк**



*Прадукцыя беларускіх тэкстыльшчыкаў.*

КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА

# ТЭКСТЫЛЬ БЕЛАРУСІ

У СССР кожны дзесяты жыхар носіць ваўняную і трыкатажную вопратку, зробленую з нітак, спрадзеных мінскімі камвольшчыкамі. Кожны чацвёрты кілаграм ільновалакна, кожны пяты дыван у краіне — беларускі. 250 мільёнаў квадратных метраў тканін у год — такія апошнія весткі аб вытворчасці прадпрыемстваў лёгкай прамысловасці рэспублікі.

Сёння тэкстыльная прамысловасць выпускае тканіны, якія карыстаюцца попытам у пакупніка, паколькі адпавядаюць сучаснаму напрамку моды. Загляньце ў нашы магазіны, і на прылаўках вы ўбачыце добрай якасці тканіны з лаўсанам „акіян“, „раманс“, якія надаюцца на мужчынскія касцюмы, прыемныя колеры паўшарсцяных тканін „васілінка“ і „вяснянка“, якія падыходзяць на паліто. Гэта апошнія навінкі нашых тэкстыльшчыкаў. Паглядзіце ільнолаўсанавыя тканіны, якія выпускае вядомы ў краіне Аршанскі ордэна Леніна ільнокамбінат. Вельмі многім спадабаліся паліто і касцюмы з ільнолаўсана — прыгожа, элегантна і нядорага.

Больш тысячы відаў прадукцыі выпускае лёгкая прамысловасць Беларусі. І сярод гэтай колькасці тэкстыльныя вырабы займаюць значнае месца. Прычым за апошні час пераважаюць прынцыпіяльна новыя вырабы. Напрыклад, нашы прадпрыемствы сталі выпускаць жаночыя сукенкі і касцюмы з поліэфірнай ніткі ў спалучэнні з іншымі відамі валакна, жаночыя сукенкі з трыацэтатнага набіўнога палатна, святочныя мужчынскія і дзіцячыя джэмперы, асвоена тэхналогія вытворчасці мужчынскіх касцюмаў, жаночых і мужчынскіх паліто з франтальным дубліраваннем дэталяў, што значна палепшыла таварны выгляд вопраткі.

У рэспубліцы цяпер звыш 120 прадпрыемстваў лёгкай прамысловасці, сярод іх — буйнейшая ў Еўропе Мінская трыкатажная фабрыка, заваяваўшыя шырокую славу Аршанскі ільняны, Мінскі камвольны, Баранавіцкі баваўняны, Віцебскі і Брэсцкі дывановыя камбінаты — сучасныя, высокапрадукцыйныя прадпрыемствы.

Звыш 150 тысяч рабочых і служачых занята ў лёгкай прамысловасці рэспублікі. І кожным кіруе высокае пачуццё адказнасці за тую працу, якую ён выконвае, кожны імкнецца ўнесці свой уклад у справу павышэння якасці, абнаўлення і расшырэння асартыменту прадметаў народнага спажывання.

**Аляксандр Кійранен**







Народная прымаўка сцвярджае, што ў кожнага прайдзісвета ёсць свой няпісаны закон. Скажам, у злодзея ён трактуецца так: галоўнае своечасова даць цягу. Вядома, з таго месца, дзе ён займаўся сваёй злачыннай справай.

У свой час гэты няпісаны закон прыйшоўся да спадобы аднаму спрытнягу па прозвішчу Скарцэні. Таму самаму Скарцэні, які гадоў гэтак трыццаць з гакам лічыўся асам трэцяга рэйха. Тады ён здзяйсняў галавакружныя трукі, чым здзіўляў увесь рэйх. Аднойчы ён, можна сказаць, выцягнуў з пятлі самога дучэ. Праўда, ненадоўга. Праз некалькі месяцаў усё скончылася так, як і належала быць. Дучэ атрымаў сваё, а Скарцэні? Ён своечасова даў цягу.

Чарговай яго аперацыяй было зруйнаванне горада Швета. У канцы вайны у адказ на разумную прапанову савецкага камандавання здаць Швет без бою, каб зберагчы жыццё мірнага насельніцтва, а горад ад непатрэбнага разбурэння, атрад СС Ота Скарцэні зруйнаваў Швет дашчэнту. Сам жа „ас трэцяга рэйха“, як заўсёды, своечасова абарваў канцы. Гэтак жа спрытна ён знік нават і з бункера фюрэра, адкуль не было ніякага выйсця, апрача дарогі ў пекла. „Ас рэйха“ знайшоў дзесьці патайны пралаз і апынуўся не на тым свеце, куды па ўласнаму жаданню адправіўся яго фюрэр з кампаніяй, а ўсё ж на гэтым.

Праз некаторы час Скарцэні прамяняў фюрэра на каўдзільо. Карацей кажучы, аднаго фашыста на другога. Праўда, пасля 1945 года ахвота да неверагодных трукаў у яго знікла. Відаць, адбілі. Скарцэні стаў самім сабой — нікчэмнай істотай, мацёрым забойцам, кім ён па сутнасці і быў заўсёды. Так эксфашыст бавіў час у Мадрыдзе аж да мінулага месяца. І раптам Скарцэні зноў выплыў... на экране французскага тэлебачання. Як у мінулыя гады, з асаблівай асалодай ён аддаўся ўспамінам аб фашызме, прыгадаў фюрэра і вельмі ўжо бедаваў, што не давялося ўстанавіць ў Еўропе нацысцкі „новы парадак“.

Магчыма і на гэты раз усё сышло б яму з рук, калі б прытрымліваўся свайго няпісанага закона: даць лататы. Але, відаць, ад радасці, што ён зноў апынуўся на суку „славы“, а мо яго падвяла дыхавіца, парушыў „ас у адстаўцы“ свой закон. Не стаў тэрмінова змывацца, як колісь. І папух. Калі пасля звягання ён разважна выйшаў са студыі, яго чакаў натоўп тэлегледачоў. У Скарцэні мільганула прыемная думка: „Няўжо аднапалчане?! А мо ахвотнікі да аўтографаў?“

Знаёмства было вельмі кароткім. Аднапалчан, вядома, не аказалася. А былы афіцэр французскай арміі чамусьці не стаў удакладняць, дзе і якія трукі здзяйсняў Скарцэні, а проста хлыснуў кійком „героя трэцяга рэйха“ па спіне адзін, потым другі і трэці раз... Давялося паліцыі ратаваць прайдзісвета-звягайлу.

Што ж датычыцца ўчынка сумленнага французскага ветэрана, то, відаць, на гэта ў яго былі поўныя падставы...

Вось да чаго можа давесці прайдзісвета адступленне ад няпісанага закона.

**В. Вольскі**




**Niedziela 20.IV.** 6.15 Tech. Rol. Fiz. 6.45 Upr. rośl. 7.15 Kurs Rol. 7.50 Przyp., radz. 8.00 Alarm przeciwpoż. 8.10 Now. w domu i zagr. 8.35 Bieg po zdr. 8.50 Sport. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. 10.30 Antena. 10.50 Koniec Trzeciej Rzeszy (Drogi Zwyc.) film dok. radz. 12.20 Dzien. 12.40 Horyzonty. 13.10 Emin Chaczaturian. 13.40 Nie tylko dla pań. 14.05 Dla dzieci: Gucio i Cezar cz. II. 14.55 Klub Sześciu Kont. 15.35 Los. Toto-Lot. 15.50 BANK MIAST (I) Mława — Lidzbark Warm. 17.05 Lekt. Pegaza. 17.20 Złota Tarka 75. 17.40 Sport. 18.30 BANK MIAST (II). 19.15 Wieczorynka. 19.30 Dzien. 20.20 Bajka dla dor. 20.25 Magdalena — film ser. ang. (Bel Ami) odc. III. 21.10 Studio Muz. Rozr. 21.40 Pr. rozr. 22.15 Sport.

**Poniedziałek 21.IV.** 12.45 Tech. Rol. Wskaz. met. 13.25 Mat. 15.50 Nurt — Ped. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Dla dzieci. 17.30 Echo stad. 17.55 Kur. Biał. 18.10 Pr. muz. 18.25 Kr. Warsz. i Maz. 18.45 Szare na złote. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Teatr TV: A. Arbuzow — W świetle wieczoru. 21.40 Pegaz. 22.25 Z kwiatami i z piosenką. 22.55 Dzien.

**Wtorek 22.IV.** 6.30 Tech. Rol. Wskaz. met. 7.00 Mat. 10.00 Dla szkół: (kl. II lic.) J. pol. A. Czechow „Czajka”. 10.40 Córka poczmistrza — film fab. radz. 13.45 Tech. Rol. J. pol. 14.30 Chem. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Dla dzieci: Ponad niebo — film radz. 18.10 Wszystko w imię zwycięstwa — film dok. wł. (Przygoda). 17.35 Studio Mł. 18.15 Kr. Warsz. i Maz. 18.35 Przyp., radz. 18.40 Sezam. 19.00 Przed kamerą kameralnie. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Córka poczmistrza — film fab. radz. 21.25 Interstud. 22.10 M. Theodorakis śpiewa pios. greckie. 22.45 Dzien. 23.00 Sport.

**Środa 23.IV.** 6.30 Tech. Rol. J. pol. 7.00 Chem. 10.00 Dla szkół: (kl. VII) Fiz. Silnik spal. 10.30 Inżynier z tajgi — film ser. radz. odc. III. 12.00 Dla szkół: (kl. VIII) Chem. Ceramika. 12.45 Tech. Rol. J. pol. 13.25 Mat. 14.40 Politech. Kurs przygot. Fiz. 15.50 Nurt — Naucz. pocz. mat. 16.20 Pr. dnia. 16.25 Dzien. 16.35 Dla dzieci. 17.20 Inf., Tow., Prop. 17.30 Los. Mał. Lot. 17.40 Pr. publ. 18.05 Kr. Warsz. i Maz. 18.25 Inżynier z tajgi — film ser. radz. odc. III. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Aleksander Newski — film fab. radz. 22.05 W 30 rocz. powoł. ONZ. 22.35 Recital H. Vondrackovej. 23.05 Dzien. 23.20 Sport.

**Czwartek 24.IV.** 6.30 Tech. Rol. J. pol. 7.00 Mat. 7.50 Kurs Inf. 8.45 Między nami detektywami — film USA (Columbo). 10.00 Dla szkół: (kl. VI) Hist. Pierwsze Min. Oświaty. 11.05 (kl. VII—VIII) J. pol. Film. 13.45 Tech. Rol. Mat. 14.30 Hod. zwierz. 15.05 Mat. w szk. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Ekran z brat. 17.40 Muzyczne wizyty. 17.55 Poligon. 18.20 Kr. Warsz. i Maz. 18.40 Przyp., radz. 18.45 Pamięć serca — rep. film. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Między nami detektywami — film USA. 21.35 Czym żyje świat. 22.05 Trzy kwadr. z pios. radz. 22.50 Dzien. 23.05 Sport.

**Piątek 25.IV.** 6.30 Tech. Rol. Mat. 7.00 Hod. zwierz. 9.00 Cichy Don — film fab. radz. cz. I. 11.05 Dla szkół: (kl. I—III lic.) Wych. tech. Nowe zastos. tech. 12.45 Tech. Rol. J. pol. 13.25 Mat. 14.40 Politech. Kurs przygot. Mat. 15.45 Nurt — Psych. 16.15 Pr. dnia. 16.20 Red. Szk. zap. 16.30 Dzien. 16.40 Dla dzieci. 17.15 Pr. publ. sport. 17.40 Spotk. z prof. H. Samsonowiczem. 18.20 Kr. Warsz. i Maz. 18.40 Fakty, Op., Hip. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Zaśpiew. to jeszcze raz. 20.50 Panorama. 21.30 Pr. publ. kult. 22.05 Dzien. 22.20 Sport.

**Sobota 26.IV.** 6.30 Tech. Rol. J. pol. 7.00 Mat. 7.30 Upr. rośl. 8.00 Mech. rol. 8.40 Pr. I prop. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Dla szkół: (kl. VIII) Nauka o czł. Sprawy piętnastolatków. 9.30 Cicha woda — film fab. radz. 10.40 Z różnych stron świata. 11.05 Dla szkół: (kl. VIII) Geogr. Ze wsi do miasta. 11.35 Inf. Wyd. 12.00 Wieczory przy samowarze. 12.30 Pol. Film Dok. Za naszą i Waszą wolność. 13.50 Estrada Poet. W. Majakowski — Obłok w spodniach. 14.10 Studio przebojów. 14.55 Beata Tyszkiewicz. 15.25 Wielki cyrk — odc. I. 16.00 Sobótka. 16.30 STUDIO 2. 19.20 Dobr. 19.30 Monitor. 20.20 STUDIO 2.




**Piątek 18.IV** — 17.00 Film pop. 17.30 Film fab. 19.30 Teatr miniatur. 20.50 Pr. muz.
**Sobota 19.IV** — 10.00 Film dok. 11.00 Film fab. 14.25 Film muz. 15.35 Hokej. Czechosł.—Finland. 3 tercja. 16.30 W świecie zwierz. 17.30 Hokej. ZSRR — Szwecja. 20.15 Dla miłośn. operetki.
**Niedziela 20.IV** — 11.30 Film fab. 13.10 Pios. frontowe. 14.25 Panorama międzynar. 14.55 Cyrk. 15.35 Film anim. 16.15 Klub film. 17.30 Wieczór aut. B. Aleksandrowa.




**Białowieża** Godzina za godziną —pol. 22—23. Wdowa Ceudero — fr. 24—25. Spragniona miłości — bułg. 26—27.
**Czeremcha** Jedynym wyjściem jest śmierć — kanad. 22—23. Ponieważ się kochają — rum. 26—27.
**Czyże** Prywatny detektyw — ang. Miłość w przyrodzie — węg. 23—27.
**Dubicze Cerkiewne** Czyste ręce — rum. Jeśli dziś wtorek to jesteśmy w Belgii — ang. 23—27.
**Gródek** Burza nad Azją — radz. 26—27.
**Kleszczele** Słuchajcie bicia dzwonów — jug. 22—23. Pierwsza spokojna noc — wł. 24—25. Pułapka w delcie Dunaju — rum. 26—27.
**Michałowo** Dowódca łodzi podwodnej — radz. 24—25. Czekamy na ciebie — radz. 26—27.
**Milejczyce** Nikt nie chciał umierać — radz. 22—23. Helga — NRD 24—25. Zła noc — NRD 26—27.
**Narew** Pomyłka szpiega — radz. Poczekam aż zabijesz — czes. 23—27.
**Narewka** Szukam człowieka — radz. Labirynt miłości — radz. 23—27.
**Nurzec** Pułapka w delcie Dunaju — rum. 22—23. W martwej pętli — radz. 24—25. Dziewczęta — radz. 26—27.
**Rajsk** On nie chciał zabijać — radz. Wkrótce nadejdzie wiosna — radz. 23—27.
**Suchowola** Zapamiętaj imię swoje — radz. Banda Asa Kier — radz. 23—27.



B.Z.Graf. zam. 1257 P-1

 

(Працяг са стар. 1)

# ЧЫМ ХАТА БАГАТА...

Фуджыямы“ — Цісовай гары.

Голдап цяпер называюць паўночнай сталіцай зімовага спорту. Праўда, Гарбатыя Мазуры — вельмі адпаведнае месца для лыжнікаў, а замерзшыя азёры, якіх тут многа, вельмі прыдатны для канькоў і парусная спорту на лёдзе. Але галдапскія ўлады стараюцца прыцягнуць турыстаў і летам. Бо тут і азёры чыстыя і рыбныя, і лясы цудоўныя, чаму ж бы і летам не адпачываць тут? Цяпер уздоўж Галдапскага возера будуюцца прыгожыя дамы адпачынку, для падарожных турыстаў ёсць ужо кемпінгі, расце сетка так цяпер папулярных заездаў-карчмаў. Вялікай атракцыяй для турыстаў стаў тут спецыяльны, калі так можна назваць, „аўтапоезд“. Гэта вынаходніцтва самога дырэктара ПОМ-у: да звычайнага газіка дачэплены дзве прычэпкі з каляровымі парусінавымі дашкамі. Гэты „аўтапоезд“ мінулым летам рэгулярна курсаваў паміж цэнтрам горада і Галдапскім возерам. Турыстам гэта вельмі падабалася, хоць спецыялісты ад дарожнага руху не вельмі ведалі, у якую катэгорыю залічыць гэты „цуд“ і ці наогул ён мае права ездзіць па грамадскіх дарогах.

У Элцкім і Алецкім паветах у гэтым годзе знайшлі новую форму турыстычнага загаспадарання. У гэтых паветах моцна адчуваецца адплыў людзей з вёсак у гарады. Тут ужо больш 50% зямлі павету належыць да дзяржаўнага фонду. Таму вырашана было на месцы некалькіх асабліва маляўніча распалажаных вёсак стварыць турыстычныя цэнтры на базе існуючых вясковых хат, зрабіўшы у іх капітальны рамонт з каналізацыяй і водаправодам, каб гэтыя цэнтры адпачынку былі высокага стандарту. Першай такой турыстычнай вёскай будзе Рыдзэва недалёка ад Элка — на 360 месц. Алецкі павет прапануе турыстам асабліва сваю цудоўную Барэцкую пушчу, слаўную нават у літаратуры падзеямі апошняй вайны.

Для агульнага ўпарадкавання арганізацыйных спраў у турызме нядаўна створана Ваяводскае прадпрыемства турыстычных паслуг, якое спалучыла і падначаліла сабе шэраг малых і слабых установаў. Цяпер гэта прадпрыемства клапоціцца пра месца для адпачынку і харчаванне для кожнага турыста і адпачываючага. Пад наглядам прадпрыемства пашыраецца колькасць месц у гасцініцах і ў турысцкіх базах. Пры Ваяводскім прадпрыемстве турыстычных паслуг створана ўласная архітэктурная працоўня, дзе праектуюцца новыя турыстычныя аб'екты. У бліжэйшы час будуць пабудаваны прыдарожныя карчмы, дзе можна будзе паесці і пераначаваць. Адна з такіх карчмаў стане на шляху Беласток-Белавежа (у Плёсках). Запраектавана яна ў стылі падляшскага традыцыйнага будаўніцтва і на макеце выглядае вельмі цікава. А як будзе ў жыцці — хутка ўбачым.

Надбужжа яшчэ амаль не загаспадарана. Тым больш гэты чароўны куточак будзе вабіць турыстаў. Аб гэтым памятае Ваяводскае прадпрыемства турыстычных паслуг. А як і што будзе будавацца, напішам пазней.

Сёння радуе ўжо факт такой увагі да спраў турызму ў нашым ваяводстве і вялікія планы па загаспадаранню цудоўных куточкаў. І ўсё гэта робіцца з думкай аб як найлепшай ахове прыроды.

**Яніна Чэрнякевіч**



**ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ**

# МІКАЛАЙ ГАВАРКО

Адным з перадавых гаспадароў у Бельскім павеце з'яўляецца Мікалай Гаварко з вёскі Крывяцічы. Вядзе ён 15-гектаравую гаспадарку. Дзяржаве прадае ў сярэднім 9 тон збожжа, у тым ліку 4 тоны ячменю і 18 тон бульбы.

Працавіты земляроб мае ўласны трактар і падвесныя сельскагаспадарчыя машыны. Усе палявыя работы механізуе.

Мікалай Гаварко гадуе шмат свіней, чатыры дойныя каровы і некалькі цялят. У мінулым годзе прадаў на пункце скупкі дзесяць свіней і чатыры мясныя каровы.

Прыемна пабываць на панадворку і ў хаце Мікалая Гаварко. Панадворак загароджаны жалезным парканам, упарадкаваны, дом у сярэдзіне памаляваны, з новай мэбляй.

У недалёкай будучыні крывяцкі гаспадар намераны будаваць мураваны дом і новы кароўнік, паколькі штогод гадуе ўсё больш кароў.

Мікалай Гаварко гэта таксама актыўны член мясцовай пажарнай каманды.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**

## На стражы лесу

Прыйшла вясна. Ласкава прыгравае красавіцкае сонца. Будзіцца да жыцця прырода. Добра і прыемна пабыць цяпер у лесе, паглядзець на яго прыгажосць і чароўнасць, паслухаць трэлі салаўя і спеў іншых птушак. Вельмі цікава пабываць у лясах надлясніцтва Жэдня ў Беластоцкім павеце і асабліва ў лясніцтве Казіны Лес. Там можна сустрэць лесніка Уладзіміра Семенчука, які ахвотна раскажа аб сваім абыходзе (800 га), аб цікавых дрэвах, аб тым, дзе найдаўжэй утрымоўваецца ў лесе раса, аб найлепшых месцах адпачынку, аб птушках і чацвераногіх жыхарах лесу, як лосі, алені, дзікія свінні, зайцы, а таксама аб іншай фауне — мурашках, жуках, матылях і г.д. Крочыць ён са стрэльбай і сумкай з квартала ў квартал. Парадуецца, калі прыедзе туды, дзе буйна расце малады лес, сярод якога ёсць шмат дрэў, пасаджаных яго ўласнымі рукамі. Засмуціцца, калі пачуе, што з грукатам і трэскам валяцца з коранем высокія сосны, калі пад рубку вызначаецца новая паласа стройнага прыгожага лесу. Лесніку і двух жыццяў не хапіла б, каб вырасціць з маленькай елачкі вялікае дрэва. У бягучым годзе 5 тыс. кубаметраў так называемай „грубізны“ ў яго абыходзе трэба высячы і вывезці. Пасля гэтае месца трэба будзе ачысціць, падрыхтаваць да пасадкі і пасадзіць малюсенькія сосны, прывезеныя са „школкі“. А гэта патрабуе шмат адказнай працы з боку лесніка. Бо справа не толькі ў тым, каб пасадзіць дрэўца. Трэба яго як след дагледзець, засцерагчы ад пажараў. Вось і нядаўна ездзіў Семянчук у вёску Галіцкія, прасіць людзей да работы, разам з якімі ён збіраў і паліў галлё, падрыхтоўваў новае месца пад пасадку лесу. У лесе Семенчуку бяжыць час незаўважальна. Штогод арганізоўвае ён прачысткі, прарэджванне лесу і бесперапынна мае дачыненне з людзьмі, якім патрэбны і дровы і будаўнічы лес. Любіць ён сваю прафесію, намагаецца выконваць добра свае планы і абавязкі.

Ад 1950 года працуе ён леснікам на Беласточчыне. Любоў да лесу прывіў яму бацька Сцяпан, які жыў таксама ў вёсцы Пераходы і быў таксама леснікам. А вось яму — Уладзіміру Семенчуку не ўдалося сваіх дзяцей звязаць з лесам і яго праблемамі. Адзін сын яго — Жоржык вайсковец, жыве і працуе ў Волчы, другі сын, Уладзімір, — шафёр-механік, працуе ў Беластоку, а дачка Ірка заканчвае медыцынскі ліцэй у Бельску. Калі Уладзімір Семянчук гаворыць аб сямейных справах, тады не можа не ўспомніць аб сваім мінулым, аб тым, як у 1939 годзе пад Замбровам у Чырвоным Бары 18 дывізію немцы ўзялі ў палон і пасля ён, як і многія польскія салдаты, цяжка працавалі на работах у Германіі. А калі вызваліла іх савецкая армія, Уладзімір Семянчук уключыўся ў рады Савецкай Арміі і пад Кенігсбергам ваяваў з нямецкімі войскамі.

Не лёгкі, але надта ж цікавы жыццёвы шлях лесніка Уладзіміра Семенчука.

**М. Хмялеўскі**

(Працяг са стар. 1)

# ПА-СУСЕДСКУ МЫ ЖЫВЕМ

— Семяноўскі вадаём, — гаворыць ён, — сапраўды будзе мець вялікі ўплыў на вадзяныя суадносіны ў прыгранічнай паласе. Гэтую справу разглядалі нават упаўнамочаныя ўрадамі. Яны рэкамендавалі загараджальную плаціну перасунуць яшчэ болей у глыб тэрыторыі Польшчы, каб абмежаваць навадненне і так забалочанай даліны ракі Нарва па савецкім баку.

Семяноўскае вадасховішча спаўняць будзе шматлікія функцыі. Між іншым, мае яно папоўніць узровень вады ў рэчцы Супрасль, якая поіць Беласток. Таму мы вымушаны асабліва пільна сачыць за чысцінёю вады ў Нарве. Яшчэ большае па размерах вадасховішча запланавана ва Владаве на Бугу. Гэтая будоўля таксама патрабуе супольнай распрацоўкі шматлікіх праблем. Дык таму ж мы і добрыя суседзі, што разам вырашаем свае справы і па-суседску дапамагаем адзін другому.

Польскія і савецкія эксперты правялі ў Беластоку некалькі працавітых дзён. Была гэта іх ужо 19-ая сустрэча. Наступная, юбілейная, намечана на чэрвень гэтага года ў Роўным на Украіне.

Так, між іншым, ажыццяўляецца ў нас **Дагавор аб дружбе і супрацоўніцтве**, 30-гадавіну якога цяпер мы адзначаем.

**В. Рудчык**

(Працяг са стар. 1)

# Альховічы

Зоцмана з 1808 г. знаходзім назву *„Олеховічы“*. Толькі ў Алфавітным паказальніку мясцовасцей з 1924 г. паяўляецца *„Ольховічэ“*.

— Мой прадзед **Лубко** быў бедны чоловек, — прыгадвае А. Каменская. — Вон служыў двацать лет у войску. І там дэсь якось банк з золотом розбілі. Набраў вон того золота і, вэрнувшысь додому, купіў сету господарку, а много заховаў дэсь под **грушу.** Меў штэры сыноў. Одін сын погледіў тое. Поехаў раз прадед на Спаса на Грабарку разом з тым сыном. Покі батько моліўсе, сын бігом додому і до того золота. Воно было ў двух **саганьцях.** Мэншы саганэць вон покінуў, а большы забраў. І стаў собе зэмлі прыкупоўваті, а потым і млына побудоваў собе ў **Станковічах.** А батько нэ мог оджаловаті тое страты, проклінаў злодэя і ўдэнь і ўночы. Сын слухаў-слухаў тые проклёны і кажэ: „Тато, нэ проклінайтэ, то я взяў“. А батько на тое: „Ну, сынку, нэхай так будэ. Ты нэ пропіў, оно побудоваўсе прэч. Пользуйсе на здорове“. Так тое і осталосе. А тэпэр то і млыны погнілі і Лубкі-млынары сталі зводітісе.

Сама меней **чатырыста** год з запруджанай грэбляю Машчонкі лілася **жолабам** вада на млыновае кола і круціўся ды скрыгетаў **камень,** мелючы жыта, авёс, пшаніцу ды грэчку. **Завозу** бывала багата, а з **завознікаў** за мліва браў мельнік **скобкам** збожжа. Малоў жа дробна або груба, а хто хацеў, дык яму і на **рафку** пускаў, інакш: перасяваў на спецыяльным сіце. Нават і пытляваную муку рабіў. Найбольш жа прыходзілася малоць грэчку, бо калісьці на Падляшшы сеялі шмат грэчкі. Любілі тады людзі розныя кашы грэцкія ды грачанікі. У запоўненым крыштальнай вадою **стаўку** плоймамі хадзілі **акуні, шчупакі, яйкі** ды чародамі поўзалі **ракі.** Спусціўшы ваду, браў млынар рыбу **кломляю,** а ракі вечарам або ўночы, запаліўшы **смаліну,** з вады выцягваў або, абдзёршы са скуры жабу і прывязаўшы яе да круглай сетачкі, лавіў. Бо рак, пачуўшы жабіна мяса, гнаўся да яго і ўпіваўся так клешнямі, што і аддзерці цяжка было.



**Даўно ўжо не круцяцца размашыстае млыновае кола.**

Усю восень, зіму і весну мельнічыха з дочкамі ды нявесткамі прала і ткала, каб апрануць з пят да галавы ўсю сям'ю ды яшчэ прыдбаць мяшкоў, ходнікаў, пасцілак, ручнікоў, дываноў і іншага дабра.

— **Сукно** або **паўсукенок** тож робілі, — расказвае А. Каменская. — Воўну скубалі, **чохралі,** пралі на **колкові,** моткі парылі ў горачой воде і мылі, посля на вітушках розвівалі і ткалі. Як чыстое сукно, то ткалі воўна по воўне, а поўсукенок — по **крамной** основе воўняны ўток давалі. Выткаўшы, сукно ў **фолюш** давалі. У фолюшові горачою водою полівалі і тоўклі ў **ступках тоўкачамі.** Фолевалі так доўго, пяць сцен сукна поўдня дэсь тоўклі. А посля бралі і росцягалі его і то не ано рукамі, але і зубамі, як дэ моцно стоўчэнэ. Ростягнуўшы, розвешвалі по плотах, сушылі. Высушыўшы, давалі ў прас. І з-пад праса выходіло вонэ гладке-гладке, роўненькое, блішчачое. У наш фолюш сукно прывозілі і з-за Буга з-под Белое, а то і з Літвы — Вілянова, Кобрыня, Брэстя. Люді одтуль мы звалі **ліцвіны,** а воны нас — **мазурэ.** На Літве з сукна шылі **свыты,** а мы тут ўбране і **буркі.** Буркі былі доўгіе до пят і з **башлыком** на голову. Одевалі іх зімою ў морозы або вейкі, як у **путь** ехалі.

Няма ўжо ў Альховічах фолюша, і А. Каменская не сядзіць за **колком** і кроснамі, але ў яе прасторным новым мураваным доме ўсе самыя сучасныя палітураваныя тахты-канапы, ложкі, мяккія крэслы і сталы ўсланы ўзорыстымі дыванамі, пасцілкамі, вышыванымі абрусамі, што ўласнаручна нарыхтавала яна, будучы яшчэ дзеўкай, а потым маладзіцаю. Яе сыны паканчалі школы і раз'ехаліся па свеце. Гаспадарыць жа на 18 гектарах унук. І гаспадарыць добра, у яго цэлы парк машын з трактарам уключна. І ўраджаі і гадоўля ў мельнікавага ўнука добрыя, хоць яму ўсяго **семнаццаць** год.

На колішняй грэблі пад спарахнелымі вербамі-старэчамі няма завознікаў з мяхамі жыта, пшаніцы ды грэчкі. Няма і рыбнага стаўка. Дзядуля-млын згорбіўся над Машчонкаю і глядзіць падслепаватымі вачыма-вокнамі ў блакітную плынь, як быццам хацеў там убачыць сваю стройную і шумлівую маладзецкасць. Не ўбачыць. Яна сплыла звонкім струменем і ніколі не вернецца.

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара



**Анна Каменская перабірае ў руках узорыстую колішнюю пасцілку і ў задуменні шэпча:** *„Усенько тое было і з водою сплыло...“*



 

